№ 1 Панядзелак 14 лютага 1921 г. Год I.

# МАЛАДОЕ ЖЫЦЬЦЁ

ПЭРЫОДЫЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ.

Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня, Віленская вул., 12. | Цана асобнага нумэра 20 мк.

## Ад рэдакцыі.

„... К свабодзе роупасьці і знаньню
Мы працярэбім сабе сьлед
І будзе унукау панаваньне
Там, дзе сягоньня плача дзед".

Янка Купала.

Будучы наймацней перакананымі, што друкаванае слова праўды дасягне ўсюды, куды ня здолее пранікнуць слова жывое і глыбока адчуваючы патрэбу такога слова, мы, група беларускай моладзі, прыступаем да выпуску ў сьвет новае часопісі, мэтай якой зьяўляецца гартаваньне маладых беларускіх сіл па змаганьне за духовае адраджэньне Беларусі і закліканьне ў свае рады новых байцоў за гэту ж ідэю. Веручы наймацней у сьвятасьць сваіх ідэалаў, мы, рэдакцыйная група беларускай моладзі, стаем у першыя рады на змаганьне за выстаўленыя сабе ідэалы і клічам-заклікаем да працы ўсіх, хто хоча бачыць нашу бацькаўшчыну вольнай ад векавечнага ярма.

Шляхі, каторымі мы здэцыдованы праводзіць у жыцьцё свае пагляды, будуць рожніцца ад шляхоў, якімі йдуць арганізацыі ўжо дасьпелыя: падчас, калі апошнія ўжо вядуць барацьбу, мы яшчэ павінны да яе прыгатавацца. Нашай першай мэтай ёсьць найбліжэйшае пазнаньне сваіх асьпірацый. Мы павінны найбольш усестаронна пазнаць Беларусь, з яе слаўнай мінуўшчынай і так сумнай сучаснасьцю, і разгадаць прычыну такога контрасту.

Літэратурнай працы маладых пачынальнікаў па роднай ніве, адводзім у нашай часопісі пачэснае мяйсцо.

Прабуджэньне нацыянальнай сьведамасьці сярод сваіх равесьнікаў і шыршага грамадзянства і ўзбуджэньне сярод іх агульнага зацікаўленьня справамі адраджэньня Беларускага Народу—наш найсьвяцейшы абавязак.

Урабляньне публічнага перакананьня аб конечнасьці працы кожнай адзінкі на рэч агулу і наагул патрэбу гуртаваньня дзеля ідэйнай працы, абяцаемо найшырэй праводзіць.

Зьвяртаючыся да шырэйшага беларускага грамадзянства зазначаемо, што будзем ад сэрца ўдзячны за прысланьне нам, як моладзі, ўсякіх прац, што кідаюць патрэбнае сьвятло, дзеля шырокага і ўсестароннага пазнаньня жыцьця, з усімі яго-нымі крутымі загадкамі.

Выявіўшы ў кароткіх словах нашае Credo, яшчэ раз заклікаем Вас, Беларуская моладзь, адклікнуцца на голас Вашых равесьнікаў і завем усіх хто можа і хоча працаваць дзеля дабра Беларусі ў каторымсь з вышэйазначаных кірункаў, найхутчэй з намі паразумецца, каб павесьці дальш супольную працу дзеля агульна ўсім прысьвячаючага ідэалу—адраджэньня Беларусі.

Беларуская моладзь! Калі мы ўвойдзем ў човен жыцьця з такімі прыгатаваньнямі, мы ні на хвіліну не перастаем верыць, што тая няведомая прышласьць, якая ад нас мае залежыць, будзе наладжана паводлуг нашае волі. Воля-ж наша—быць вольнымі і незалежнымі ў сваёй хаце і мы яе дабьемся.

**Рэдакцыя.**

## Да Беларускай Моладзі.

Моладзь Беларусі!
Да цябе зьвяртаем
Пакліч на работу
Для роднага краю.

Край наш вымагае
Ня лёгкае працы, —
Дык усе ў грамаду,
З хатак і з палацаў.

Будзем з усіх сілаў,
Шчыра працаваці
У справе адраджэньня
Бацькаўшчыны - Маці;

Роднага народу
Каб палегчыць долю...
Гэй, да нас, хто любіць
Свой народ і волю!

Гэй, да нас, хто верыць,
Што час лепшы прыйдзе,

Зьдзек чужынцаў згіне,
Сонца наша ўзыйдзе!
Хто цярпеў нядолю
Ад цяжкіх прымусаў
Гэй, да нас, хто чуець
Сябе Беларусам!

А. С.

# Бліжэйшыя задачы моладзі.

Ад часу, калі беларускі нацыянальны рух зварушыў со сну міліонную народную масу, з гэтай апошней пачалі выдзяляцца цэлымі групамі збудзіўшыяся сыны бацькаўшчыны, якія зразумеўшы сваю крыўду і загнаннасьць шукалі простых дарог к волі і простору. У такіх групах было і ёсьць шмат адзінак з найчысьцейшым пажаданьнем служыць дабру і праўдзе. Менш гэтага ёсьць адзінак умеючых узяцца за працу з належнага боку і з патрэбнай падгатоўкай. Нястача гэта, ёсьць першай балючай ранай на маладым арганізьме беларускай моладзі.

Другая балячка, што ляжыць ня ў нас самых, але намі павінна быць вылечана, прадставіцца нам выразьней, калі мы паўзіраем на тую ніву артаямі якой мы быць манімся.

Прад намі народныя масы. Параўнуймо іх з такімі-ж масамі суседніх з намі народаў: яны як і мы нядаўна толька ськівулі з сябе панаваньне царскай нагайкі. Але ў гэтым толька і ёсьць наша да іх упадобленьне. Далей мы расходзімся. Суседзі нашы не здаваліліся самым фактам асвабаджэньня і ня спынілі свайго парыву к свабодзе, а рвуцца да яе ўсьцяж з неўгамонным імпэтам. Кожны з іх у асобнасьці знае хто ён, кожны любіць сваю бацькаўшчыну, намагае ёй, ганарыцца яе іменьнем і жыве так шчасьліва, бо чуе, што ён зрабіў для бацькаўшчыны ўсё, што толькі мог. У гэткага чалавека ёсьць спорнасьць у працы і парыў к творчасьці. Чалавек такі пяе толька аб сваёй старонцы, аб яе людзёх і аб іхным шчасьці і нядолі. У такога чалавека ёсьць ахвота ўсё ўмець, усюды намагаць для сваёй старонкі. Няма што і казаць, што моладзь у гэт'кім народзе будучая, падмога і падпора сваей бацькаўшчыны, аддае сваю волю энэргію маладога жыцьця і ўсё-чыста, што толька мае, на аўтар агульна-грамадзкай справы.

Калі цяпер зьвярнуць увагу на нашу беларускую моладзь і яе працу, дык пакажацца нешта ня тое, чаго трэба выглядаць ад тых маладых сіл, задача каторых ляжыць у служэньні народу, быць ягоным правадыром, знаходзіцца на чале у сваёй старонцы, вясьці свой народ да ягонай і сваей сьветлай прышласьці. Тут мы знойдзем мешаніну розных думах, розных поглядаў на жыцьцё; тут няма тае любасьці да ўсяго свайго нацыянальнага, беларускага, а ёсьць, хутчэй усяго, нейкі асаблівы гумар. Тут ня „сьмех скрозь сьлёзы“ — як сказаў адзін пісьменьнік, а хутчэй „плач“ скрозь тыя-ж сьлёзы. Усе павінны добра зразумець нарэшце, што наша поўнае адраджэньне мусіць стацца ўжо фактам.

Народ наш, столька ператрываўшый цяпер ужо не загіне і з гэтым змушаны будуць лічыцца ў прышласьці ўсе, незалежна ад сваіх сымпатый да нас, або нясымпатый.

У нашай моладзі не хапае яшчэ тэй таварыскай зьлепкі, таго ідэалу, які моладзь вынясьці мусіць ад навукі і досьледу ў справе нашага адраджэньня. З жалем запраўдным сьцьвердзіць прыходзіцца, што ёсьць сярод нас некаторыя тыпы, якія зусім стыдаюцца прызнацца ў душы да сваё беларускасьці, а хаваюцца пад гэтым сьветлым і ясным імем толька хвілёва.

Пасьля гэт'кага самааналізу ясным будзе знаецца, чаму мы, беларуская моладзь, гэтак сонна і марудна бярэмся за працу культурнай і нацыянальнай самаасьветы. Рэдкія толька з нас, нешта робяць, нешта хочаць пачаць, а рэшта—гэта, проста, лёяльныя „ні туды, ні сюды“ індывідыумы. Беларуская моладзь! Б'е гадзіна нашага адраджэньня. Настае вялікая мінута, якой чакалі мы сотні гадоў. Хутка будзем мы мець магчымасьць, зрабіць тое, што ўжо зрабілі нашы суседзі: прабудзіцца з векавога летаргічнага сну. Дык чаго-ж мы — перадавікі, беларуская моладзь, чакаем? Ці нам хочацца праз сотні гадоў узноў быць на службе? Ці мы ўзноў будзем толька кланяцца, ды жаліцца, як істоты бязвольныя? Не! Годзе! Мы мусім дабіцца свайго, мы мусім стацца гаспадарамі ў сваёй хаце. Тагды толька настане ў нас роўнае і пекнае жыцьцё.

Наша задача—будзіць со сну самых сябе. Мы мусім пазнаць нашы задачы ў прышласьці і мы павінны быць моцнымі і цьвёрдымі, што сталь, каб перамагчы ўсе прашкоды на сваёй дарозе і гэтак шчасьліва дайсьці да раз выстаўленай сабе мэты.

Канчаючы гэтым свае думкі і разважаньні мне хочацца сказаць пару проўдзівых слоў усім тым яшчэ, хто не разумее, хто баіцца і чураіцца нашай агульнай справы—адраджэньня. Напрасьне, браточкі, напрасьне! Ня думайце, што мы бедныя па духу, па прыродзе. Душа нашага народу вылілася ўжо ў нясьмертных творах нашых слаўных песьняроў, што перакладаюцца на чужаземныя эўропэйскія мовы. Гэта адно люструе ўжо нашу духовую старану і даказуе яе нязломнасьць моцы. А прырода наша? Яе трэба толька зразумець. Колькі ў нас прыродных пякнін! Колькі ў нас вялікіх зялёных лугоў... Якія высокія, густыя, цёмна-хмурныя, быццам чаго-сь гнеўныя нашы лясы, што вечна шумяць-пяюць сваю магутную песьню гаротную, якбы пытаючыся, ці доўга ім служыць яшчэ чужым людзём і ці хутка будуць яны магчы расказаць усю сваю крыўду і зьдзек сьвету цэламу. А як пекныя і багатыя нашы рэкі і вазёры...

І ўсё-ўсё гэта будзе нашым, будзе нам служыць у карысьць і нас весяліць. А народ наш? Якія добрыя нашы людзцы, якая тут ува ўсім прастата, дабрата, якое сэрца і добрахочасьць... У ці-ж усяго гэтага, гэткага пекнага, гэткага мілага можна не кахаць, ня любіць?.. Ведама, не! І мы, беларуская моладзь, пазнаўшы і пакахаўшы ўсё роднае, сьмела пойдзем па простай дарозе, што вядзе нас да нашага загнанага народу, якога аднак ніякая культура, ані цывілізацыя не патрапілі і не патрапяць перарабіць у расейца, або паляка, ці ў каго-сь урэшце там іншага. Беларус наш, асобны ад усіх, просты, мягкі, але нязломна моцны, бо перажываўшый векавыя крыўды, вечна астанецца беларусам! Яго трэба толька збудзіць. А гэта прыпадае нам, беларускай моладзі. Дык да працы.

Алясандр Пусько.

# Грамадзяне беларусы!

Выпускаючы ў сьвет новага зьвястуна жыцьцёвасьці беларускай справы, мы, беларуская моладзь, клічам прыйсьці нам з помаччу выкупляючы і пашыраючы наша, на начатку такое дробнае, выдавецтва. Думка наша: выкрыць захаваныя ў маладых беларускіх душах духовыя скарбы, ужо цяпер, на самым пачатку, апраўдалася надспадзяванымі рэзультатамі. На першы наш кліч згуртаваўся гурток на столька ўжо моцны, што змог вось выпусьціць у сьвет свой орган, сваімі выключна сіламі і срэдзтвамі. Гэты адзін факт ужо дае нам гварантыю за памысны даплыў да нас сіл культуральных у прышласьці.

За гэта мы ўжо маем гварантыю. З другога боку мы дагэтуль яшчэ ня маем ніякай гварантыі, як у сучасны момант, так і ў бліжэйшай прышласьці.

Не загварантаваны мы з боку матэрыяльнага і толька добрая воля грамадзянства здолее нас выратаваць з гэтае небасьпекі.

Дык адклікаемся да Вас, Грамадзяне, з прызывам выкупляць і пашыраць нашу часопісь, як роўна-ж ўспамагчы нас матэрыяльна дабравольнымі складкамі, хто па скольку можа. Прынамся на пачатак...

Ня дайце згаснуць нам без пары, бо і мы хочам жыць, разьвівацца, каб так прыгатаваўшыся, годна перaняць на сябе ўсе задачы набліжаючайся прышласьці.

Усе беларускія ўстановы просімо прыняць на сябе абавязак прыйманьня ўсякіх для нас дароў, з азначэньнем ад каго і перасланьня іх нам. Мы пaквітуемо атрыманьне ахвяр публічна у чародным нумэры.

Грамадзяне, памажэце!

**Рэдакцыйная група.**

# Аб патрэбе арганізацыі клюбу беларускай моладзі і аб яго задачах.

## (П р а э к т).

Перш чым гаварыць наагул аб клюбе, аб яго мэтах, будучай дзейнасьці і г. д. разгледзім тыя прычыны, дзякуючы якім, сярод гуртка беларускай моладзі паўстала думка аб арганізацыі такога клюбу, як конечне патрэбнага ў жыцьці беларускай моладзі наагул і вучнёўскай асабліва.

Усім, конечне, вядома ў якой нездаровай атмосфэры прыходзіцца разьвівацца сягоньнешняй моладзі. Маладое пакаленьне, як найбольш чуткае да ўсіх праяваў жыцьця, у якіх-бы варунках яно не разьвівалася, ня можа раўнадушна праходзіць міма тых здарэньняў, што кругом яго разыйгрываюцца. Школа, для вучнёўскай моладзі ня можа поўнасьцю запоўніць жыцьця вучашчыхся і ў апошніх з конечнасьці зьяўляецца жаданьне правясьці вольны ад навукі час у якіх небудзь іншых занятках.

І вось ў моладзі дасягшай ужо большага, ці меншага духовага і фізычнага разьвіцьця з'яўляецца жаданьне жыць шырэй, паўней. Не знаходзячы ў гэты час належных для разьвіцьця свайго варункаў, моладзь пачынае звыкла „блудзіць ў пацёмках“. Відзячы кругом жыцьцё ува ўсіх ягоных уродлівых формах, маладзік такі, йдучы за прыкладам старшых стаецца ступянёва „практыкамдзяльцом“, катораму чужое усё, што не датыча нажыву і грошы.

Сумна, калі справа стаіць ужо так, але горшая далёка справа, калі маладзік такі раз сасьлізгнуўшыся з дарогі, пачынае аддавацца неакелзанаму самадуру, прыймаючы гэтак з-пары на сябе ўсе сумныя пасьледзтвы за свае чыны. І чаго-ж можна ў прышласьці чакаць ад такіх людзей, ўсім бадай гэта добра вядома: хіба які шчасьлівы выпадак выратуе іх. Усе гэтыя перамены ўласьцяў з іхнымі пасьледзтвамі, дарагавізна, ненармальны ход школьных заняткаў—ўсё гэта страшэнна адбіваецца на чуткай душы моладзі.

Сучасны момант — хвіліна пераходная. Ясна, што неўзабаўкі пачнецца будаўніцтва новага жыцьця. Пастаўленьне на ногі ўсяго разрушаннага вайной, зродзіць вялікую патрэбу даплыву новых культурных сіл, патрэбу людзей, воля якіх ня прытуплена, не зьнячулена яшчэ страшэнствамі сучаснасьці. Патрэба будзе мець людзей „моцных душой і целам“. К пераняцьцю на сябе гэтай цяжкай задачы мы і павінны будзем прыгатавацца. Мы павінны да гэтага часу вырабіць у сабе ўжо пэўныя асьпірацыі, а можа навет і ідэалы. Прыгатавацца гэтак да жыцьця мы зможам толька супольнай самаэдукацыяй. Дружна аб'яднацца і пацягнуць да гэтае працы магчыма большую лічбу вучняў і наагул моладзі, павінна быць аднэй з конечных мэт кіраўніцтва прышлага клюбу. Мы зроджаны для грамадзянства і гэтага нам ніколі забыцца нельга.

Разгледзіўшы цяпер у прыбліжоннасьці мэты клюбу, можна менш-больш азначыць і плян яго дзейнасьці.

У праграму дзейнасьці клюбу, павінны увайсьці гэткія мэты:

Духовое разьвіцьцё сваіх сяброў, можа разьвівацца пры сумесным абменіваньні мысьлямі і пазнаньнямі, разборамі літэратурных твораў,—у папаўненьні сваіх пазнаньняў, пераймаючы іх ад іншых, чытаньнем больш сур'ёзных кніг як навучнага, так і бэлітрыстычнага зьместу. Разгледжаньне розных пытаньняў, цесна зьвязанных з духовым жыцьцём вучашчыхся, рожныя гульні, што служаць дзеля духовага разьвіцьця, ладжаньне вучнёўскіх вечарынак з сур'ёзным рэпэртуарам, чытаньнэ рэфэратаў і г. д.

Што да фізычнага разьвіцьця:

1) На абавязку кіраўніцтва клюбу ляжыць рупнасьць аб тым, каб сябры клюбу мелі-бы права карыстацца адпаведнымі ім гімнастычнымі прыладамі. Дзеля гэтага варта зьвярнуцца ў якую-сь спортыўную арганізацыю, (у Вільні: „Сокол“, „Маккабі“), а яны, можна спадзеіцца, акажуць нам у гэтым напрамку ўсякую магчымую з іх стараны помач. Наагул бяручы рэч, трэба заахвочываць сяброў клюба да найдалей ідучага фізычнага разьвіцьця, пашыраючы сярод іх гэту думку. У выпадку памыснага разьвіцьця клюба, можна было-б ладзіць экскурсыі, што давала-б магчымасьць сябром бліжэй пазнаёміцца з прыродай роднага краю—Беларусі.

Дзеля памыснага разьвіцьца працы ў клюбе і незамінаньне ў ёй адзін другому, арганізаваць трэба пры клюбе асобныя сэкцыі, як драматычную, літэратурную, спортыўную і ў меру конечнасьці — іншыя. Гэтак саздаўся-б хор, драматычная дружына, літэратурны кружок, спортыўная сэкцыя і шмат-шмат іншых. Тут-бы сябры маглі спрабаваць свае сілы ў кожным кірунку і выбраўшы сабе найадпаведнейшы, працаваць у ім на агульную карысьць.

Літэратурны кружок у клюбе мае да спаўненьня вялізную роль. Сябры кружка заахвочываюць сяброў клюба выпускаць у сьвет свае друкі, часопісі і інш., гдзе-б маладыя працаўнікі маглі свабодна замяшчаць свае творы, мыслі і інш. Азнаёмленьне сяброў клюба з беларускай літэратурай і наагул беларусазнаўствам, адна з першых, а бадай і найпершая мэта сяброў літэратурнага кружка.

Дзеля гэтага ладзяцца рэфэраты на тэматы беларусазнаўства, літэратурныя разважаньні... Да выдавецтва друкаванага слова павінны быць пацягнуты ўсе сябры клюбу. Калі такія выданьні сыскаюць сваіх чытачоў, гэта будзе ўжо вялізны крок наперад у справе нашага нацыянальнага адраджэньня...

Гэтак прадстаўляецца нам у агульных рысах плян дзейнасьці праэктуемага клюбу. Уся сазнацельная беларуская моладзь павінна памагчы ў арганізаваньні так важнай у жыцьці нашым інстанцыі, як клюб. Арганізуймося, бо калі ў гэткі цяжкі час мы ня прыйдзем сабе з помаччу, то і ў прышласьці нам помачы гэтай чакаць няма скуль. Прыгатаваць з сябе людзей стойкіх, сільных духам і целам, каб магчы пасьля прыйсьці з актыўнаю помаччу сваёй бацькаўшчыне—вось наша мэта!

**Ж.**

## Шануймо родную мову.

Пасьпешная работа пад духовым адраджэньнем Беларусі ў сваім надзвычайным разгоне пакінула за сабою некаторыя прабелы, каторыя, калі хочам мець будыніну бацькаўшчыны пэўнай, павінны канечне быць заноўнены.

Маю тут на ўвазе пашанаваньне правоў нашае мовы беларускай, ужываючы яе ўсюды, гдзе нам жывучы здарыцца бываць. Меймо на ўвазе, што мова народу ёсьць першая адзнака ягонага і гордасьць. Датычыць гэта асабліва нас, беларускай моладзі, Нам трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на старанна пазнаньне роднай мовы, што ёсьць першым і неацанімым скарбам кожнага добрага грамадзяніна і пазнаньне ее гета—наш першы моральны абавязак. Здабыцьцё пачэснага мейсца роднай мове сярод вялікай сусьветнай сям'і моваў, хай будзе для нас наказам канечнасьці.

Усё гэта бязумоўна будзе мець пасьледзтвы чыста практычныя, асабліва ў нашай Вільні і ваколіцах, гдзе беларускасьць, ці іншую нацыю, прывыклі трактаваць у прапорцыі ужываньня адпаведнае мовы публічна. Дзеля гэтага мы павінны ўсюды публічна і бяз ніякіх сьцясьненьняў ужываць нашае беларускае мовы насамперш у абшчэньні з сабою, а што за тым—у зьвяртаньнях і адповедзях людзём незнаёмым, якія няраз прыстаюць у гутарку, каб інформавацца ў этнографіі данага грамадзянства. Гэта апошняе запамятаймо сабе глыбака, бо такія і ім падобныя факты здараюцца раз-за-разам.

Дык шануймо-ж нашу родну мову! Забавяжмося тут урачыста да сьвятога выкананьня павышэйшых, так скромных, ад нас вымаганьняў, каб ніхто і ніколі ня мог нам выкінуць нашае хісьлявасьці, ці і баязьлівасьці праводзіць у жыцьцё раз прынятыя і асьвячаныя ідэалы.

Пазнавайма нашу родную беларускую мову ўва ўсім яе харастве, а пазнаўжы, ўжывайма яе усюды і заўсёды. Гэтым пакажам пашану для роднае мовы і нашу грамадзкую дасьпеласьць.

**Альфіч.**

## Наша мэта.

Пасьля вялікага палітычнага перавароту ў манархічнай Расеі, адразу выбухлі, быццам з полымя, незалежныя гаспадарствы, прыкладам: Польшча, Літва, Фінляндыя і т. д. Выдзяліўшыся з расейскага колеса змагаюцца яны і бароняць свае незалежнасьць. Мы-ж, беларусы, адны засталіся як-бы ў хвасьце ад гэтых новапаўстаўшых гаспадарстваў. Але няма нічога дзіўнога. Калі мы паглядзім у гісторыю нашае бацькаўшчыны, то мы ўбачам тыя прычыны, якія не назвалялі на так хуткае адраджэньне. Ня маючы магчымасьці добра выясьніць ўсе падробнасьці я хацеў бы ўсеж-дыкі адзначыць некаторыя факты. З таго часу, як нашыя продкі прынялі хрысьціянства, іх культура пачынала ўсе больш і больш разьвівацца і праз кароткі час дасягла высокага значэньня. Доказам таго, што беларуская культура стаяла вельмі высока, можа служыць факт, што Літва з культурай слабшай, злучыўшыся з Беларусьсю пераняла культуру ад беларусаў, як ад культурнейшых. Пасьля, ў сілу злажыўшыхся варункаў, культура наша, пачала глохнуць і да 19 сталецьця чуць ня зусім заглохла. За гэты час Беларусь пападала пад уладу Польшчы, Расеі і інш. Беларускія паны апалячыліся, або абрусэлі і толькі дзякуючы таму, што наш просты народ моцна трымаўся сваей мовы, ён астаўся нязьменным і верным сабе да апошніх часоў.

З 1905—6 году пачынаецца нацыянальнае адраджэньне Беларусі. За якіх-небудзь 10—15 гадоў бязпрыкладных у гісторыі высілкаў зроблена надлюдзкая праца на карысьць нашае бацькаўшчыны. Але гэтага відаць мала яшчэ дзеля таго, каб бацькаўшчына наша ўстала ад цяжкай хваробы, якую перанясла за ўвесь час змаганьня двух няпрымірымых ворагаў: Польшчы і Расеі. Нашай мэтай, як беларускай маладзі, ёсьць унасьледаваньне ідэйнага змаганьня за адраджэньне і аб'яднаньне Беларусі. Нашай мэтай ёсьць давершаньне прац ушчатых нашымі слаўнымі папярэднікамі.

**М. Іль—ч.**

Вуч. VI кл. В. Б. Г.
19 2/II 21.

# Літэратурны аддзел.

## Мора.

Далёка—далёка раськінулася сінее, ласкавае мора... На гарызонце яно зьлівалася з блакітам паўдзённага неба і калыхалася, і іскрылася ўсё залатымі праменьнямі сонца. Дробныя, зялёныя хвалі набягалі на залаты пясок берагу й пакідалі на

шматфарбных каменьчыках і ракаўках белясьнежныя вузоры пены. Ціха пяялі нешта хвалі, але ніхто, ніхто не разумеў іх песьняў. А песьні гэтыя, дзіўныя, манячыя гукамі ў далёкі галубы прастор, гдзе толькі сонейка глядзіцца ў срыбнае люстра мора, гукалі ў немую глыбіну, на цёмнае зялёнае дно. І нікому не зразумелыя губляліся марскія песьні ў блакітнай дальчыне.

На беразе, на каменьнях стаяў чалавек. Лёгкі ветрык дыхаў яму ў твар сьвежасьцю мора, марскія хвалі, разьбіваючыся ў яго ног, асыпалі яго брызгамі, што гарэлі як брыльлянты ў шоўкавых яго валасох. Доўга-доўга слухаў незнаёмы чароўныя сьпевы мора, а потым узяў сваю ліру і прайшоўся па залатых струнах. Запяялі струны аб тым-жа, што й мора: аб векавечнай свабодзе, аб вольным прасторы, аб чарах морскага, ніколі ня бачанага людзьмі дна... Гучныя, магутныя гукі заглушалі ціхі шэпт мора. Цяпер.. яно ледзь калыхалася, прыслухіваючыся да гукаў залатой ліры, да чароўных песьняў, ірвучыхся з-пад рукі чалавека.

А струны зьвінелі ўсё сьмялей, ўсё магутней. Незнаёмы знайшоў сваю родную стыхію. Людзём ён ня мог-бы ніколі так пяяць—яны не зразумелі-бы яго гарачых песьняў, не зразумелі-б натхненьня, што паліла агнём яго шчокі, што гарэла ў глыбіне сініх вачей...

А мора... мора было блізка да душы яго. Ен ведаў, што яно таксама трывожна,. таксама свабодна, як і ён, поэт! —Н.—

## У КЛЯСЕ.

Нудна, нудна у клясе сягоньня...
Неяк цёмна і ціха саўсім...
Імжыць дождж, а ў вакно аднатонна
Ясакар лісьцём б'ецца сухім.
Дахі мокрыя зьзяюць як з сталі
Нейкім блiскам халодным, цяжкім,
Імжыць дождж, а ў вакно перасталі
Біць лісьцём ясакоры сухім...
Каля дошкі высокай і чорнай
Стаіць Люба і пішаць, маўчыць.
Ціха ўсё, а ў вакно аднатонна
Зноў лісьцё ясакара стучыць.
Неяк дзіўна—так ціха сягоньня,
Ані сьмеху ня чутна, ні слоў.
Усе маўчаць, а ў вакно аднатонна
Ясакар перастаў біцца зноў...
Доўга, доўга я ў кнігу глядзела,
Слоў ня бачыла толькі, чаму?
Мо' за тое, што ў вокны нясьмела
Ясакар шаптаў казку сваю?
Як далёка мне ўсё, што балесьне
Адчувала я ночкай і днём.!
Мо' за тое, што лепшыя песьні
Ясакар мне пяе за вакном.
Ен пяе не аб тым, што мінула,
Старадаўным, далёкім, сівым...
Не, аб будучай долі, я чую
Ен лісьцём сваім шэпча сухім.
І нясьмелыя, смутныя словы
Непакояць, трывожаць душу.
Ціха ў клясе, бо ціхую мову
Абарвалі таполі сваю...
І ўзноў нудна, нудна, халодна,
Неяк цёмна і ціха саўсім.
Імжыць дождж, а ў вакно аднатонна
Ясакар лісьцём бьецца сухім.

Натальля Арсеньнева.

# Карта з дняўніка.

Пахмурная пагода адзіжнага зімовага дня рабіла дзень падобным да змроку... Тым - больш у месьце N, гдзе густа стоўпіліся чырвоныя цагляныя камяніцы і здаваліся гэтак не прапускаць ніваднюсенькай касулькі дняўнога сьвятла. Тамто—гэтта, перад большымі магазынамі тускла паліліся электрычныя лямпы, сьвецячыя найчасьцей парамі, быццам воўчыя зрэнкі. Уздоўжкі вуліц і ўпапярок снуліся пайрожнейшыя, нечым заклапатаныя, постаці. Усюды рух і жыцьцё біла больш, як штодзенным пульсам. На вуліцы Вагзальнай і да яе прылягаючых саулі найрожнейшыя постаці ў гарачковым тэмпе.

Між адзінокімі пешаходамі на асаблівую ўвагу заслужывалі двое: мужчына-дзяцюк гадоў 20, ды хлапчук гадоў 14. Старшы быў адзеты ў кажух з вялізарным аўчынным каўнярам. Па гэтаму аднаму можна было-б думаць, што гэта быў хлапец з вёскі. Маленькая аднак загадка ў рэшце вопраткі давала да мысьленьня штосьць іншага. Чорныя суконныя ганавіцы былі „на выпуск". Чаравікі ні то хромавыя, ні то фалендравыя шчырыліся і на добра „адставілі лупы". Шапка летняя, чорнага сукна, бязіменнага фасону, неяк дзіўна пасавала да аўчыннага кажуха, з вялікім каўнярам. Марынарка чорная „фрэнч" — скрозь на глуха запятая, ясна рысавала шырокі касьцісты корпус, але чамусь упаўшыя грудзі. Твар паблекшы, пальцы рук выхудшыя і выцягнутыя, як сьпіцы і шмат іншых адзнак здраджала „ваўка ў аўчынцы".

Цяжкая ноша прыгнятала на добрае нашага героя: ужываючы найрожнейшых поз ён нёс, цяжкі знаць, падарожны кошык. Калі ён стаўляў кошык на каторае-сь плячо, полы кажуха расхлыстываліся яшчэ выразьней. Між іншым, над кляпкай левага кешанка блішчэла адзнака аднае сярэдняе школы данага места... Гэта быў знача вучань і ўсе недаборы у вопратцы на цяжкі ваенны час, яму беднаму даруйма.

„Бядуючы-гаруючы" — дабраўся гэтак наш „студэнт" да вагзалу і, кінуўшы на зямлю сваю ношту, доўга стаяў у паўзгорбленай позе, быццам ня верачы, што ношты на плячах ужо нямашака. Урэшце сеў на сваім клунку і тагды толька, прыпомніўшы мусіць, жудасна ўзглянуў на свайго таварыша падарожы, стаяўшага ту-ж стылу з клункам у руках таксама і чорным жупаном у перавес на руцэ. Гэта быў знаць—вучань таксама, ніжэйшай толькі рангі, узяты дзеля помачы, бо: аддаўшы што меў у рукахі і скланіўшыся, выйшаў з будынку і направіўся, як відаць, дамоў...

Доўга-доўга сядзеў так, у згорбленай позе наш „студэнт", то на палову сажмурыўшы вочы, то хмурна пазіраючы на хвалюючаюся публіку, быццам стараючыся кагось пазнаць, штось адгадаць, чагось прасіць...

Галўнай лініяй твару была аднак нейкаясь азадачанасьць. Немыя водрухі і каменны ўзгляд даказывалі нейкую надмерную мазгавую работу. Ні людзкі тупат, ані гоман, ані стук ня ўплывалі на зьмену паказанай позы: малады падарожны сядзеў бяз водрухаў і гэтым ён жыць здаваўся. Яго на пагляд ня цікавіла нічагусенька ўсё акружаючае; ён жыў сабой і тым што меў у сабе.

А меў ён задачу не малую, цяжэйшую над алгебраічныя радзікалы... Як быць, скуль пачаць. Першай задачай страпёнага падарожнага было праехаць да маткі сваёй за вёрст сотку; праехаць, ня маючы ні праўных ні матэрыяльных на гэта

срэдзтваў. Задачай падарожнага было праехаць да маткі, каторая апошкі сіл дабівае, каб якось змагчыся з бядой, хоць на сягоньня і мару чорную адагнаць. Ей—матцы ня прысьвячае там нічагусенькі на заўтра. Апошкі хатняга дабытку йдуць у заставу за занятыя даўгі. „Пуня павалілася, хату ўвосені падперлі і гэтак „мацуючыся“ стаіць час нейкі, на парасят хіра якаясь успала і усе павыдахлі...“—гэткія і ім падобныя весткі прывёз жыдшынкар з роднай вёскі і гэтыя думы што чорнае груганьнё сгапівалі маладую галаву нашага падарожнага.

Ня дзіва тагды бачыць нашага героя ў ягонай позе, з ягонымі трапункамі, з ягоным бяздольлем. Ен думае — маячыць як-бы і сабе ў вавуцы не пашкодзіць і матцы старой, што на яго дагэтуль усё, што магла, аддала, а цяпер з голаду ды ходаду ўжо прымірае—памагчы, парадзіць. Ен бяз часу ўзяў са школы одпуск, ён — падарожны траціць час і г. д.— яго і гэта грызе, але хата і хатнія подзеі даводзяць яго напросту да роспачы.

Чым і як ён гору паможа?.. Грашмі, каторых нямашака, радай—калі ў самога дух прыбіты, чым?.. Матка жадаўшая яму дабра найбольшага, цяпер у апошней нядолі і недастатку... і праз каго?.. Ен адзіная ўсвамога маткі, калі-б ня ведаў кніжкі, быў-бы ўжо артаём і матка напэўна гора-ды-бяды ня знала-б... А сягоньня?

Ці не адмовіцца ад усяго і ня ўзяцца за плуг, за касу?.. Можа разстацца з кніжкай назаўсёды?.. Не! Рагатая душа ўпіралася дыба і... усе гэтыя ўнутраныя змаганьні для зоркага вока добрага псыхалёга, аж надта выразна рысаваліся на спахмурнелым чале.

Раптам ажывілася ўсё, што было ўвакруг. „Каса адчынена!“ Сумнымі вачмі павёў наш падарожны па акружаючых людзёх. Яму чагось не хапала... Аднаразовым высілкам аднак стаў наш падарожны на нагах, паднёс свае клункі ў куток, а сам, сьмелым, дамінуючым крокам, прайшоўся разоў колькі па будынку, прыгляняючыся там-то — гэтта, каб прачытаць найрожнейшыя апавяшчэньні, або прыстаць з людзьмі аб курсаваньні цягнікоў у старану Д., Безспакойства ад ўсяго гэтага на твару падарожнага ня толькі ня спынілася, а йшчэ больш узмацавалася...

Мінут дзесяць пасьля гэтага, бачым мы ўжо нашага знаёмага на плятформе... Постаць ягоная пры новых абставінах адваўляецца таксама. Рыўным, мерным, энэргічным крокам ступае ён, выглядаючы гэтак хутчэй на якогась чыгункавага служачага, чымся на... падарожнага.

Хмарная пагода зьмяняецца хутка змрокам, а пасьля і запраўднай ноччу. У міг пазапаляліся нязьлічоныя лямпы і зрабілася ўзноў відна, як у дзень. Пры новым неватуральным сьвятле, цягнікавыя саставы стаялі і пасуваліся быццам вялізныя вужакі. Шыпеньне машын, сьвісткі стрэлачнікаў, туркот і піск нямазаных калёс зьліваліся ў вадзін магутны гоман, нагамінаючы аб бязупыннай пульсацыі гарачкавага і пасьпешнага жыцьця. Праходзілі так адны саставы, падсуваліся іншыя, каторыя з колеі адсуваліся і імкнуліся ў даль, заносячы за сабою ўсялякія сьляды пастою. І відны былі толькі напроста густыя клубы чырвона-вогненнага дыму, каторы разсыпаўся ў вышыне ў цэлы рой чырвона-вогненных пшчол-іскраў. Рой гэты зьмяняўся другім, той трэйцім і г. д., а усё гэта рабіла ўражэньне аднэй суцэльнай напаветранай ракі.

Адзін толькі састаў, адагнаны з першай на дванаццатую пуць, здаваўся стаяць нярухома. Ад часу-да-часу толькі захілялася па гэту ветку чыгункі „печ“, гонячы прад сабою адзін, або два вагоны, каторыя пры сустрэчы з саставам зьбіваючы буфары адсувалі цэлы састаў блізка на аршын. Кожнае такое дачэпліваньне зраджала цэлы рад найрожнейшых згукаў, а пасажыры ў вагонах ня раз абгладжывалі сабе то нос, то патыліцу.

Памалу, памалу і састаў наш пераходзячы рожныя дапаўненьні дасяг лічбы 45. Печ, прымкнуўшая з апошнім дабавачным вагонам, пачала пасьпешна выкідаць цэлыя шары вогненнага дыму. Падлічальнікі пачалі сьпісываць вагоны і род іх, мазьнікі абглядалі калёсы, кандуктары цяжка падымаліся ў свае ўзвышаныя над вагонам будкі. Адным словам, усё і ўсё прыгатаўлялася к ад'езду...

Як доўгай аднак была гэта гарачка нашаму падарожнаму! Якіх спосабаў, якіх поз не хапаўся ён... каб ня здрадзіць і ня згубіць, што дагэтуль было здабыта... Зьмяніўшыся нанач вецер падуў з поўначы і вялізны аўчынны каўнер акутаў галаву нашага знаёмага...

Час аднак плыве што вада. Прыгатаваньні к ад'езду кончаны. Працаглы, але сумны кандуктарскі сьвісток азваўся з канца цягнікавага саставу. Гучны двутонны гудок паравоза ў адповедзі першаму разрэзаў начное паветра. Хвіліна яшчэ... Цяжкаму сапенью і ўздохам паравоза адказаў праразьлівы трэск расьцягіваючыхся вагонных буфароў. Увесь цягнікавы састаў з цяжасьцю і сапеньнем перакаціўся ўпярод на крокаў дзесятак. Усьлед за тым печ пачала яшчэ часьцей выкідаць шары дыму. Сапеньне двоілася, чацьвярылася і хутка зьмянілася ў правідловае, блізка роўнамернае механічнае дыханьне гэтага вялізнага вужакі, каторы набіраў усё большага і большага імпэту, аж урэшце ўсё гэта зьявішча пачало нікнуць і зацікаць ў далёкай ночнай цьме... Яшчэ час нейкісь мігалася чырвоная ліхтарка на апошнім вагоне, а ўрэшце і гэта далёкая мігаўка быццам згасла, быццам зьнікла ў далі.

Гэтак схаваўся з ваччу і наш сарака пяці вагонны цягнікавы састаў, заносячы за сабой, як і ўсе папярэднія, ўсякія сьляды пастою і вывозячы разам знаёмага нам пасажыра.

8. 1. 20 А — ч.

## МАРСКАЯ МАРА.

...А сам на канцы карабля я сядзеў  
І стомленым вокам у воду глядзеў,  
У блыскучую воду. Далей і далей  
Мой погляд праймаў глыбіну ўсю у ей.  
І глыбака там у тумане на дне  
Прыгожае места убачылась мне.  
Здавалася ходзяць там людзі  
Грамадзяне паважна ў чорных плашчах  
Са шпадамі, у ганаровых цапях  
І мэдальмі абвешаны грудзі,  
Яны важна праходзяць між тлуму людзеў  
Да ратушы дзе шмат статуй каралёў  
Як вартаўнікі нямыя  
Стаяць мо запраўды жывыя.  
Недалёка ўздоўж доўгага раду дамоў  
Дзе так вокны яскрава блішчаць,  
Там дзе высокія ліпы стаяць  
Паненкі гуляючы шоўкам шумяць.  
Там з вежаў высокіх ўжо званы зьвіняць  
І ў касьцеле арган загудзеў  
Гукі тыя мне жудасна нешта крычаць  
Сум вялікі мне ў душу зьляцеў.  
І бязмерная туга пазногці свае

Глыбока ў сэрца мяне устрамляе
І нядаўна загоеныя раны мае
Здаецца каханыя вусны яе
Пацалункамі зноў атчыняюць.
І зноў крывавыя кроплі сплываюць.
Чырвоныя кроплі пякучыя
Крывавыя кроплі гаручыя.
Тыя кроплі нячутна спадаюць
Нячутна аднак за адною
Адна за аднэю паволі сплываюць
На хату каханай маей.
На хату старэнькую з дахам высокім.
Пустэльную хату бязлюдную, нудную
І толькі пад сьветлым ваконцам шырокім.

Я бачу цябе там дзіцё маё беднае
Каханая дзетка. Дык вось ты куды
Схавала далёка жыцьце сваё бледнае
Далёка, глыбока у хвалі сюды
Між тым як з тужліваю сумнай душою
Цябе няупынна я доўга шукаў.
Даўно, ах даўно разлучыўся з табою
Ах, шмат ужо часу цябе я чакаў
Цяпер я знайшоў цябе. Чаму—ж плачу
Сярод гэтай жудаснай, цёмнае ночы
Але. Я знайшоў цябе ізноў я бачу.
Твар твой цудоўны, чароўныя вочы.
Туды да цябе ў глыбіню я сайду
Прыйду і да сэрца твайго прыпаду.
А хваля за хваляю сьледам капілась
І раптам матроса я голас пачуў
Ах што гэта доктар? Што з вамі зрабілась?
Глыбока з жальбой да мяне ён зяхнуў
І далей ад краю мяне адцягнуў.

Мурын-Базыльянскі.

# Адарваны ліст.

(Апавяданьне вясковага вучыцеля.)

Быў у мяне вучань, Пілінкам клікалі. Добры быў хлапец, а здольны ай!.. Бывала вочкі як вугалькі гарэць ад непасільных думак і працы, твар так і глядзіць напружана.. Ня раз бывала забудзешся пад гэтым разумным дзяцінным узглядам і пачнеш гаварыць аб тым, што набалела ў цябе на сэрцы. Падпёршыся рукой і ўставіўшы на мяне свае спакойныя вочы, ён з прыемнасьцю слухаў маю гутарку, а на яго тварку відаць было як у люстру ўсе адчуваньні.. Скончыў ён школу як ня можна лепш. На экзаміне ўсе дзіваваліся яго талковым адказваньням. Шкада мне было гэтага хлопчыка з талентам. Думаю: дзеля немагчымасьці аддаць яго ў вышэйшую школу аддам у мястовую. Скончыць, вучыцелям будзе. Пачаў я прасіць бацькоў Пілінкі памагчы іх сыну, але доўга не хацелі старыя і слухаць. Нарэшце я іх умаліў. З вялікай труднасьцю даставіў я свайго прыяцеля ў першую клясу мейскае школы. Якраз у гэту самую восень мяне перавялі ў другі павет і я страціў з ваччу Пілінку.

Прайшло 5 гадоў. Здарылася мне праяжджаць праз тую самую вёску, дзе я раней быў вучыцелям, і заварнуў у сваю былую школу. Стаіць пахілўшыся, замкнутая на замок, парошая мохам, як-бы ніколі і нічога й ня было. Нудна зрабілася ў мяне на сэрцы. Колькі тут перадумана!—думалася мне.—Пакінуў я тутка частку сваёй душы. Успомніў я і аб Пілінку і зайшоў да яго бацькоў. Уваходзячы, я думаў атрымаць падзяку за добрую раду іхняму сыну. Але бацькі Пілінкі сустрэлі мяне суха і з няпрыемнасьцю..

— „Дзе Пілін? У хаце ён, ці скончыў ужо школу? Ма' мае і пасаду?

— „Бадай-жа Вас, пане вучыцелю, каб Вас ліха ня бачыла,—пачаў дзед,— „Сапсулі Вы нашага Піліпа, ня будзе з яго чалавека—вырадак які хіба будзе!"

Нудную праўду я пазнаў. Такі разумны вясковы хлапец, пераняў хутка ўсе дурныя стараны меставага жыцьця і стаўся першым распусьнікам.

— „Ен адмаўляецца працаваць, з сябе пана корчыць, лаецца на нас мужыкамі, або хамамі, сьмяецца над нашай мовай, прастатой; патрабуе панскай яды, вопраткі",—казалі з сьлязьмі бацькі.

— „Чаму-ж ён ня йдзе на службу? Паступіўбы ў школу прасьветы—ўсёж Вам лягчэй было б?

— „Вось, Вы пагаварэце з ім... Я, кажа, ня стану за якіх небудзь 70-80 рублёў, грудзі рваць у вашай мужыцкай школе! Я ляпей на пошту, або на чыгунку паступлю, буду мець грошы і чыны, а пасьля...

— А добры дзень, пане пэдагог!—раптам акліўнуў мяне з-заду былы мой вучань, з грукатам уваходзячы ў хату.— „Я бачыў Вас каля школы, але не хацеў Вас чапаць."

— Я пагледзеў на яго і зьдзівіўся. Якая перамена! Калісьці прыемны твар, мілыя вочы, цяпер страцілі сваю яснасьць, сваю праўдзівасьць.

Нешта няпрыемнае, жорсткае глядзела з яго вачэй. Сьціснулася мая душа...

Патрэбна асьвета. Эх, колькі яшчэ трэба працы, каб асьвяціць нашу вёску; о, як гэта цяжка!..

Лёгка сказаць: народная агульная асьвета; на дзеле што выходзе.

Закруціліся ў мяне ў галаве прыкрыя думкі.

— Піліп! Братка, што ты робіш? Адумайся! Бацькі страцілі апошнія грошы, а ты..."

— „Перш наперш я Вам ня Піліп, а Піліп Васільлевіч, а другое гэта тое, што я не патрабую ад Вас рады,"—перабіў ён мяне.

Стаў я тут даказываць, што я не хацеў яго зьняважыць і шмат чаго другога вырвалася ў мяне з грудзеў. Піліп слухаў і ў душы сьмяўся нада мной.

— Нудна тут у вёсцы, вось што!—перабіў ён мяне і пры гэтым пачаў апавядаць пра местовае жыцьцё...

„Вось куды пайшлі твае найлепшыя духовыя сілы—думаў я...

Нявытрывала маё сэрца. Разьвітаўся я з Пілінкам і паехаў далей.

Быў вясёленькі дзень; сонца прыемна сьвяціла і грэла, сьпявалі птушкі, але нудна было на душы.

Чаму-ж—думалася мне, адарваны ліст, гэты Піліп, ад праўды жыцьця. Так сумаваў я заглядаючы ў сіняе неба, а далёка з званіцы нёсься звон, навяваючы нуду і думкі.

М. Іль-ч.

# Вясною.

На шостым тыдню Вялікага Посту першы раз пачуў Піліп пяяньне жаўранкаў. Ен варочаўся з лесу, а жаўранкі ляцелі нізка ў паветры. Песьня іх была гэткая сьветлая, звязульная, вясеньняя песьня, што Піліп затрымаўся, падняў угару галаву і доўга глядзеў у блакітнае неба,

жадаючы ляпей разгледзіць іх. І радасна было ў яго на душы, што йдзець ізноў вясна, і сумна неяк, а чаму сумна—ён і сам ня ведаў. Увесь дзень потым думаў Пілiп аб галасістых вясеньніх птушках, надпраўляючы лапці у сваёй невялічкай, цёмнай хатцы. Душна было ў ёй, шэрая ад дыму печ займала блізка што палову ўсёй хаты. Маленькае ваконца не прапускала ніводнага праменьня сьветлага, ужо па вясеньняму ласкавага сонейка.

А ў паветры цяплела з кожным днём. Дарога з лесу зусім папсулася, ў лесе ня можна было ані кроку ступіць, каб не праваліцца па калена ў рыхлы, мокры, поўны вады сьнег.

Пайшоў аднойчы Пілiп насьля палудня пахадзіць па лесе з сваім рудым сабакам Валетам, ды ледзь выбраўся; на такую ваду натрапіў.

Над ракой, ўжо пакрытай ручаёчкамі, ад хутка таючага сьнегу зацьвілі вербы, на ўзгорках сьнег зусім стаяў і жоўтыя, калючыя сьцяблі леташняй саломы бліпшчэлі цяпер на сонцы. Цёпла, цёпла было днём у лесе. Пілiп з любоў'ю прыслухаўся да кожнага гука, з любоў'ю прыглядаўся да ўсякай новай адзінкі наступаючай вясны. Ён толькі чакаў, калі прайдзе вада, калі крыху пасохне мягкі мох, сярод радасна зьвінячых соснаў і хвоек. Пілiп ведаў, што ў глыбіне лесу, на сьветлых палянах ўжо пачалі такаваць глушцы, а паляваньне было яго жыцьцём. Шчасьлівы быў стары, калі хадзіў па пахучаму смалой бару, прыслухіваючыся да кожнага лясного гука. Ён мог цэлую ноч прастаяць бяз стрэльбы негдзе на паляне і жыць невядомым людзям жыцьцём маленькіх божых стварэньняў — шэрых лясных птушак. Сьвежае, смалістае паветра быццам маладзіла яго. Старыя ногі лёгка ступалі па мягкаму дывану зеляненючых першай зеляньню імхоў...

У Вербную нядзелю трэснуў лёд на рацэ і яна шумная, страшная затапіла ўсё да самага лесу. Пілiп выйшаў з сваей хаты і доўга моўчкі, глядзеў на гульню вялікіх жоўтых льдзін, разьбіваючыхся адна аб другую. Шум, гул нясьліся ў паветры. Кусты і бярозкі невялікага гаю каля маста ясна адбівалася ў галубой, люстраной вадзе. Адбівалася ў ёй і неба ў каторым высока-высока пяялі жаўранкі сваю вясеньнюю гучную песьню.

— Н —

---

## Мае успаміны.

Лета 1915 году выдарылася вельмі сухое. Дажджу ня было цэлых 5 тыдняў. Усё пажаўцела ад несьцярпімага жару. Там-сям, пасярод нашай вёскі ўвечары можна была ўбачыць сабраўшыхся ў купы суседзяў з сумнымі тварамі, гаманіўшых аб засусе і вайне. Толькі адныя дзеці, дзякуючы халадку, гулялі з вялікім крыкам, навяшчаючы вуліцу вёскі да самай поўначы, ня гледзячы на тое, што старыя кожную мінуту за гэта лаяліся. Адное што іх супакоіла на адну хвіліну, гэта стоўб пылу, які падымаў сваім возам спазьніўшыйся селянін.

Мне гэтыя гульні таксама вельмі падабаліся, бо я часамі навет ня чуў, як мяне клікалі вячэраць. Адзін раз я замарыўшыся астанавіўся каля старых і пачуў гутарку дзеда: „Гэтая засуха варожа вялікае няшчасьце.“ Словы гэтыя так запалі мне ў душу, што адразу прапала ахвота бегаць. Я стаў больш церціся каля старых і прыслухоўвацца да іх гутаркі. Але вось, дзякуючы ласцы Боскай, пайшоў дождж. Людзі павесялелі гледзячы на прыроду, якая адразу аджыла. Збожжа ўдалося на дзіва і хутка пачалі жаць.

Яшчэ ў часе жніва мне прыхадзілася ўсё часьцей і часьцей бачыць едучых па шасэ бежанцаў, якія незадоўга да канца жніва запрудзілі ўсю вёску. Добра памятую як аднаго разу ўвечары зайшла да нас кабета-бежанка з двумя маленькімі хлопчыкамі і прасіла хлеба. Мы ей далі павячэраць і пакінулі пераначаваць. Вячэраючы яна нам апавядала сваё жыцьцё і ўцёкі. З яе слоў можна было бачыць, што яна бегла з заходняга павету нашае губэрні. Мужа яе ўзялі капаць акопы і забілі ў часе перастрэлкі, а яна сама ўцякла так-сама з-пад нямецкіх куляў. Пры гэтых словах яна заплакала. Мае бацькі сталі яе пацяшаць. Яна супакоілася толькі тагды, калі бацькі пазволілі ёй заставацца жыць у нас, абяцаючы ўзяць з сабой калі прыйдзецца адгэтуль уцякаць.

Мала-па-малу стала чутна страляніна, што было прадвесьнікам набліжаючагася фронту. Увокал нашай вёскі стала зьбірацца шмат войска, а потым зьявілася вайсковая канцэлярыя, каторая займала памешканьне вясковай школы. Праз некалькі дзён па прыбыцьцю канцэлярыі, нам быў адданы прыказ выбрацца ў дарогу праз 24 гадзіны. Слухаючы прыказу мы выехалі на другі дзень зраньня, пакідаючы родную вёску.

Была пекная раніца. Толькі што ўзыйшло сонца і сваімі праменьнямі асьвяціла вёску, з яе старымі высокімі дубамі. Гледзячы здалёку на такі пекны малюнак некаторыя з старых суседзяў плакалі прычытаючы, як па нябошчыку. Мы ж малыя, наскольки я гэта памятую, былі чагось рады, не давалі сабе веры, што трэба разьвітацца з вёскай мо' на заўсёды. Нам здавалася што гэта так сабе, як-бы забава. Гледзячы ў дальчыню, мы ўбачылі як з'явіліся дзьве птушкі, не падобныя да іншых, проста ляцеўшыя на нашу вёску. Толькі тагды, як пачалася страляніна з кулямётаў, ўсе дагадаліся, што гэта былі нямецкія аэрапланы. Па загаду афіцэра мы прымацавалі да высокага кія чырвоны крыж і ўставілі на адзін з вазоў нашых бежанцаў. Відаць было, што гэтыя птушкі (так сяляне называлі аэрапланы) ня вельмі страшыліся і, скінуўшы на вёску 7 бомбаў, паляцелі не сьпяшаючыся.

Праз 5 мінут глядзім, ажно нашая вёска гарыць. Падняўся плач, каторы пераходзіў у лямэнт. Мой бацька зьняў шапку і перажагнаўся, а потым павярнуўшыся да нас са сьлязмі прагаварыў: „Вось калі мы пазнаем бяду“. Я ня стрымаўся і і быццам у такт другім зэгаласіў, успамінаючы словы дзеда: „Гэтая засуха варожа вялікае няшчасьце“. А з заду тымчасам „хутчэй, хутчэй!“ паганялі салдаты-абозьнікі, не пазваляючы пагледзець хоць на агонь і дым сваіх хат і клуняў.

Вуч. VI клясы М. Ільяш—ч.

1921 г. 7/I

Друкарня Коопэр. Тавар. „ДРУК“, Вострабрамская 5. Рэдактар і выдавец Аляксандр Пуська.